Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 36. Вільня, Чацьвер 4 Лістапада 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месядау 4 зал., на год — 8 зал.

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадной палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## ПОЛЬСКІ БУДЖЭТ.

На сераду 3-га лістапада склікана звычайная сэсыя Сойму для разгляду гаспадарсьцьвенага буджэту на 1926—27 год. Паводле констытуцыі буджэт укладае Рада Міністраў, а разглядае і зацьвярджае, або зьмяняе, ці зусім адкідвае яго Сойм і Сэнат. У сувязі з гэтымі правамі й абавязкамі польскага парлямэнту, цікаўна зьвярнуць увагу на гэтакі факт. Газэта „Głos Prawdy“, урадовы орган зьмясьціў артыкул, у якім сказана, што гаспадарсьцьвены буджэт, прыняты Радай Міністраў, наступіць у Сойм толькі для дапоўненьня формальнасьцяў. Гэта значыцца, што Сойм павінен зацьвердзіць буджэт такім, якім прапануе яго ўрад, і на'т не разглядаць яго, а толькі проста дзеля формальнасьці перагаласаваць яго. Яшчэ быццам дзеля страху газэта прыпамінае паслом сілу маёвага перавароту, калі-б яны асьмеліліся зрабіць ня так, як хоча ўрад. Ну й добрыя-ж адносіны між Урадам і Соймам!

Гэтыя адносіны ў надта незавіднае палажэньне паставяць тых паслоў, якія будуць галасаваць за буджэтам запрапанаваным урадам. Узноў тут прыпамінаецца пуга. Але ня ў гэтым рэч, зьвернім лепей болей увагі на лічбы буджэтныя.

Усе даходы, прадбачаныя буджэтам роўны суме 1.899.252.571 залатоўка, у гэтым звычайныя даходы 1.706.914.851 зал., а надзвычайныя—192.337.720 зал.; звычайныя выдаткі роўны 1.838.948.702 зал., надзвычайныя—59.731.273 зал.

Даходы складаюцца з гэтакіх групаў: адміністрацыя — 1.211.191.697 зал., прадпрыемствы — 92.534.874 зал. і гаспадарсьцьвеныя монаполі 595.526 000 зал.

У выдатках асобных міністэрстваў, найболейшую суму забірае ваеннае міністэрства, міністэрства ўнутраных справаў і асьветы.

Зьвернім тут увагу на факт, што звычайныя выдаткі перавышаюць звычайныя даходы на суму 132.033.851 зал., гэта значыцца, што звычайны гаспадарсьцьвены буджэт Польшчы зачыняецца вялікім недаборам на 132 міліёны зал. У сувязі з гэтым, ці-ж можна назваць, што Польшча дайшла да зраўнаважанага буджэту? Не, бо раўнавага польскага буджэту фікцыйная, апертая на надзвычайных даходах, якіх крыніцы скора высахнуць, а тады будзе тое, што ўжо некалькі разоў было—польская залатоўка паляціць уніз. Ёсьць ведама, што польская валюта можа спасьці й дзеля іншых прычынаў незалежна ад дзяржаўнага буджэту. Незалежна ад відавочнай нераўнавагі звычайнага буджэту, якая выражаецца ў дэфіцыце (нястачы) 132 міліён. зал., можа паўстаць іншая нераўнавага ў форме нераацэнкі нармальных даходаў. Даходы могуць ня прынесьці тае сумы, якую прадбачыць урад, бо насяленьне Польшчы што раз балей бяднее, бо Польшча мае, адносна да заможнасьці грамадзянаў, вельмі вялікі буджэт. Гэты буджэт лажыцца ўсім сваім цяжарам на гаспадарскае жыцьцё і ў першаю чаргу на землиробаў—сялянаў.

Даходы гаспадарства складаюцца пераважна з падат. каля 65% і з монополяў каля 30% усіх даходаў. Дык бачым тое: што селянін не даплаце ў форме беспасярэдніх падаткаў, заплаце ў форме спажываньня табакі, цукру ці хмельных напіткаў (алькоголю). Такім парадкам, большасьць усіх даходаў цячэ зь кішані згалелага селяніна. Пішам згалелага дзеля таго, што дзяржаўныя і самаўрадовыя буджэты за мінулыя гады да таго ўжо абабралі сялянскія гушчы, што цяпер селянін зусім згалелы. Ніколі ні пры якім урадзе, ні пры якай окупацыі сяляне не плацілі такіх вялікіх падаткаў, як пад Польшчай. Ці вытрывае селянін далей плаціць такія падаткі—пакажа будучыня.

Але калі ў сялян ня стане падушак, кажухоў, хустак і інш. для сэквэстратара, тады сьмела можна будзе сказаць, што наступае крызыс казны. Гэты крызыс ужо ў пэўнай меры выступаў, бо за будынкі-вартоўні, якія ставіліся ля радавай граніцы дагэтуль незаплачана грошы, а работнікі ня могуць ніяк знайсьці вінаватага, урад пасылае да супалкі, супалка да ўраду. Гэта зьдзек над прыватнымі асобамі. Але можа настаць падобны зьдзек і над урадніками, калі няхопіць грошы на выплату ім пэнсыі. Праўда, можна пачаць друкаваць білеты без залатога падкладу, але такі друк інфляцыйны павядзе за сабой узноў спадак польскае залатоўкі.

Незалежна ад гэтых агульных увагаў глянем цяпер, якая доля прыпадае Беларусам у гаспадарсьцьвеным буджэце? Пэўне-ж з боку даходаў беларускія сяляне і ўсё насяленьне нясуць усе дзяржаўныя цяжары—плацяць падаткі пад усялякай іх формай. Але што-ж мы за гэта маем? Куды ідуць тыя грошы, што плацяць нашыя падатнікі? Грошы гэныя ідуць на войска, на паліцыю, на польскую школу. Войска мае бараніць цэласьці Польшчы, бараніць яе граніцаў, але мы Беларусы ня маем ахвоты бараніць Польшчу, каторая нас перасьледуе.

Нас бяз нас падзялілі, разарвалі нашую зямлю на часьці, душаць нас гаспадарска, палітычна й культурна ды яшчэ загадуюць плаціць тым, якія хочуць створаны парадак удзержыць далей. Паліцыя мае найболей работы зь меншасьцямі беларускай, літоўскай і ўкраінскай. Трэба сачыць, рабіць пратаколы, садзіць у вастрогі, зьдзекавацца, памагаць паном душыць беларускіх сялянаў, і на ўдзяржаньне такой паліцыі плаціць—той-жа селянін, якога паліцыя карае за ягонае жаданьне людзкага жыцьця.

Гаспадарсьцьвеныя выдаткі на асьвету ня маюць у сабе ніводнай пазыцыі для Беларусаў. Школы, што дае нам улада, маюць на мэце палячыць Беларусаў, забіваць іх культуру, лезьці ў іхныя душы і змушаць вучыцца: „królewski szczep piastowy...“ Іншыя выдаткі буджэту нічога добрага нашым сялянам ня прыносяць.

Пасьля ўсяго гэтага, якія маюць быць нашыя адносіны да гаспадарсьцьвенага польскага буджэту? Адказ ясны, мы проці буджэту.

Нашыя паслы ў Сойме павінны галасаваць, ня гледзячы на сьвіст пугі, якую ўзяў у рукі п. Пілсудскі, проці буджэту, запрапанаванага ўрадам.

*Б. А.*

## Нашая праграма.

(Працяг).

### Зямля сялянству бяз выкупу.

„Усе непрацоўныя землі: панскія, гаспадарсьцьвеныя, касьцельныя, царкоўныя і іншыя, павінны перайсьці ў рукі беларускіх—малазямельных і беззямельных сялянаў, бязь розьніцы веры, бяз выкупу і на ўласнасьць бяз права спэкуляцыі зямлёй, у ліку працоўнай нормы, у залежнасьці ад якасьці зямлі“. Як бачым, Сялянскі Саюз, як сялянская беларуская партыя, дамагаецца ў сваёй праграме падзелу панскай, гаспадарсьцьвенай, касьцельнай, царкоўнай і інш. зямлі між беларускім сялянствам бяз выкупу. Можа хто пытацца, чаму падзел бяз выкупу? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба глянуць трохі назад—у гісторую. Спрад доўгіх вякоў, тысяча год таму назад, Беларусы расьсяліліся каля рэчкі Дняпра, Дзьвіны й Нёмна і іх прытокаў і пачалі мазольнай працай здабываць сабе хлеб. Як толькі перайшлі яны ад эпохі паляўнічай, рыбалоўнай і качовай да земляробства, сталіся гаспадарамі на занятай і выкарчаванай зямлі. З часам, як настаў панскі прыгон, сяляне ня толькі павінны былі ўрабляць зямлю, зь якой хлеб ішоў у сялянскую сям'ю, але й працаваць на пана, які, як самых сялян, так і ўсю зямлю на якой працавалі сяляне, лічыў сваёй уласнасьцяй. Такім парадкам усею працу выкарчоўкі і выробленьня зямлі на Беларусі спаўняў беларускі селянін, а вынікамі яго працы карысталіся іншыя—паны.

Гэтая несправядлівасьць часткова была спынена скасаваньнем паншчыны, але затое вельмі шмат зямлі, на якой працавалі сяляне-Беларусы перайшло на ўласнасьць пана, ці гаспадарства або касьцёлу ці царквы. Прайшло 60 год і ўжо маем тое, што сялянам не хапае надзелянай зямлі (ўжо і раней не хапала), сяляне проста душацца на маленькіх кусочках зямлі, бо ня маюць магчымасьці выжывіць сваю сям'ю. Рэч ясная, што гэты голад зямлі павінен быць здаволены і селянін малазямельны і бязьзямельны павінен дастаць зямлю, на якой праліваў пот і кроў яго прадзяды. Зямлю гэту павінен ён дастаць дарма, бяз выкупу, бо ён яе не прадаў пану, але пан сілай пануючага ладу забраў зямлю ад селяніна бяз выкупу. Гэтакім парадкам зямля павінна вярнуцца ў рукі свайго даўнейшага гаспадара.

Ня можа быць тут ніякай гутаркі аб малазямельных, што выходзяць зь іншага краю, ім зямля належыцца але ў сваім краі, там дзе іх дзяды працавалі. У нашай-жа Беларусі зямля павінна перайсьці толькі ў рукі сялянаў-Беларусаў, бо яны павінны быць гаспадарамі на сваёй зямлі. У сувязі з гэтым Беларускі Сялянскі Саюз і дамагаецца скасаваньня якнайбарджэй вайсковага асадніцтва і прыватнай

калянізацыі беларускіх земляў, якія былі праведзены і праводзіцца яшчэ цяпер бяз згоды беларускага сялянства, беларускага народу. Беларускі народ ніколі ня згодзіцца зь ніякім асадніцтвам, зь ніякай калёнізацыяй, бо ён сам мае замала зямлі для сваіх сялянаў; усе землі беларускія, на якіх спрадвеку жыў беларускі народ, павінны перайсьці да беларускага сялянства на ўласнасьць, бяз права спэкуляцыі зямлёй.

Цяпер, як-жа гэты пераход павінен ісьці?

„Падзел зямлі праводзіцца самымі сялянамі праз Сялянскія Зямельныя Камісыі пры Самаўрадах".

Каб пры падзеле зямлі ня было ашуканства (надужыцьцяў), трэба каб гэты падзел праводзілі самі сяляне. З гэтай мэтай сяляне на аснове агульнага, роўнага, простага, патайнога і пропорцыянага галасаваньня, выбіраюць сяброў Зямельнай Камісыі. Гэтая камісыя вядзе парцэляцыю—падзел зямлі між мясцовымі малазямельнымі і бязьзямельнымі сялянамі. Наўперад зямельная камісыя аблічае ўсе непрацоўныя землі, якія прызнаны пад разьдзел, аблічае патрэбы ўсіх сялянаў і ў залежнасьці ад вялікасьці прастораў парцэляванай зямлі, ад якасьці гэтай зямлі і лічбы кандыдатаў, устанаўляе т. зв. працоўную норму для розных катэгорыяў грунтаў. Працоўная норма—гэта ёсьць такая колькасьць зямлі, якую сам гаспадар з сваёй сям'ёй можа ўрабіць і мець зь яе ня толькі даволі сабе хлеба і іншых земляробскіх прадуктаў, але яшчэ мець пэўную частку на продаж. Адным словам працоўная норма ёсьць тыпам самастойнай (самазадаволюючай і прадукцыйнай) гаспадаркі. Працоўная норма ня ўсюды аднолькавая. Там, дзе лепшая зямля, норма будзе меньшай, там, дзе горшая зямля, працоўная норма будзе большай. Калі, скажам, у Наваградзкім, або Слуцкім павеце на працоўную норму выпадзе 18 дзесяцін, то ў Пінскім павеце выпадзе болей, можа каля 30 дзесяцін. Гэтакім парадкам зямельныя камісыі будуць праводзіць падзел зямлі, выдзяляючы сялянам працоўную норму ў колькасьці, напрыклад, 18—30 дзесяцін у залежнасьці ад якасьці грунту. Каб сябры зямельнай камісыі спраўна й сумленна вялі працу, будзе над імі контроль зложаны з сялянаў, або сялянскага ўраду.

Наагул уся праграма Сялянскага Саюзу імкнецца да таго, каб улада ў Беларусі належала да сялянаў і работнікаў. Толькі сялянска-работніцкая ўлада на Беларусі пойдзе па ідэолёгіі працоўных мас, толькі гэта ўлада сялянаў можа правясьці падзел зямлі між малазямельнымі і безьзямельнымі сялянамі-Беларусамі.

Дык усім сялянам-Беларусам трэба ходацца (бароцца) за сваю уладу. Каб гэтае ходаньне было арганізованым і карысьнейшым, а рэзультаты яго былі скарэй відавочныя, трэба каб усё сялянства аглядалася на сваю клясовую Сялянскую Арганізацыю, трэба каб усе сяляне вялі працу пад Сьцягам Беларускага Сялянскага Саюзу. Іншыя партыі вядуць працу не на карысьць беларускага сялянства, хоць яго ашукавалі ўселякія чужынцы. Дык усе сяляне пад сьцяг Сялянскага Саюзу для барацьбы за зямлю й волю! Няхай жыве Беларускае Сялянства! Няхай жыве Беларускі Сялянскі Саюз!

(Далей будзе). *А. Саюзьнік.*

## Зубр у Беларусі.

(Зьмяшчаецца ў сувязі зь Нясьвескім зьездам).

Вялікі бык. Астаўся нейкім цудам
Ён ад вайны ў загонах Беларусі;
Жыве сабе з арыстакрацкім брудам
І лесавік яму з паклонам служыць мусе.
«Звод на яго! Пашто быкоў пладзіці?!»
Так кажа нам шмат-хто з паляшукоў:
«Пашто дабро запрацаванае глуміці?
«І гдзе карысьць для вёскі жыхароў?
Тлумачыць пан: «мужычы вашы думкі,—
«Труцень і зубр патрэбны на развод;
«А будзе год калісьці такі глумкі,
«Дык трутняў і зуброў сам выгубіць
[народ.

*К. Сваяк.*

# З ГАЗЭТАЎ.

### Аб нацыянальных меншасьцях.

З прычыны ўбіўства львоўскага школьнага куратара Сабінскага „Robotnik" (№ 291) у перадавіцы паміж іншым піша:

„Аб адным толькі няма сумлеву: львоўская трагедыя,—гэта трывожны звон, гэта паказь, што завастрэньне нацыянальных адносінаў у Польшчы дайшло найвялікшае ступені напружэньня. Гэтак паказуюць з усіх усходніх вайводзтваў. Усюды сярод Украінцаў і Беларусаў расьце ўплыў нацыяналістычных або бальшавізуючых элемэнтаў. А галасы шчыра дэмакратычных элемэнтаў, што гатовы супрацоўнічаць з польскім урадам, заціхаюць бяз рэха... у Варшаве.

„Пяць месяцаў прайшло ад маёвага перавароту. Але кіруючыя цяпер у Польшчы кругі не зрабілі нічога, што-б азначала асноўнаю зьмену ў нацыянальнай політыцы, не стварылі ані праграмы, ані хоць-бы пляну рэформаў; адкладзена „на пазьней" пытаньне аб нацыянальных меншасьцях, ня гледзячы на тое, што жыцьцё не стаіць на месцу, што ў нашых умовах кожны дзень „адкладу" паварочуе ўсё далей і далей кола гісторыі".

Паказаўшы на прыклад Чэхаславаччыны, дзе ўвайшлі ў габінэт два нямецкія міністры, аўтар стацьці кажа:

„Настае мамэнт энэргічных дзеяньняў. У праціўным выпадку будзем валіцца ўсё глыбей і глыбей у бяздоньне безнадзейнай барацьбы з нацыянальнымі меншасьцямі. Перамога дэмократыі ў Польшчы залежыць між іншым таксама й ад спосабу разьвязаньня нацыянальнай проблемы. Але найгоршым было-б аставацца пры страўсавай мэтодзе адлаляў і адкладаў „на пасьлей". Ня маем часу ані мы, ані нацыянальныя меншасьці".

Прыемна чуць парады да лепшага, але няма надзеі, каб у Польшчы настэлі зьмены на лепшае ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Аб самых ППС-ах, ворганам каторых ёсьць „Robotnik", трэба сказаць, што хоць яны й пішуць часамі подобныя вышпрыведзенай стацьці, але й самі яны прыймаюць учасьце ў уціску беларускага народу. У цяперашнім польскім урадзе, як у шмат якіх ранейшых, ёсьць міністрам пэпээс Марачэўскі, але ён нічаг усенькі, ня робіць каб зьменшыўся ўціск нацыянальных меншасьцяў.

### Просім не перакручаваць.

У № 34 „Сял. Нівы" я напісаў стацьцю „Адказ грамадаўскай рэдакцыі". У гэнай стацьці паміж іншым казалася, што на правіню („Грамады") паказуе гэтая надзвычайнае лёяльнасьць да Польшчы і сяброўства з NPCh і прыязьнь да Масквы і то да цяперашняй Польшчы і да цяперашняй Масквы. Каб „Грамада" была пад бальшавікамі, дык яна там была-б урадовай партыяй".

Ясна што тутака гутарка *толькі* аб *прыязьні* да Масквы. Што-ж датычыць словаў „была-б урадовай партыяй", дык я хацеў гэтым адзначыць тое, што „Грамада", як партыя, каторая не змагаецца з бальшавікамі і навет прыяе Маскве, ня была-б перасьледавана бальшавікамі, ціі іншымі словамі, была-б легалізавана. З усяго тэксту начай і разумець не магчыма. А тым часам эндэцкая газэта „Dzieńnik Wileński" (№ 245) у стацьці „Przygotowania białoruskie do powstania", перакруціўшы крыху наш тэкст гэтага, зрабіла фальшывы вывад, што „Сял. Ніва" называе „Грамаду" арганізацыяй комуністычнай. А што датычыць словаў: „лягчэйшыя варункі працы ў „Грамадзе", дык тут „Dz. Wil." так сама дае дзіўное й фальшывае выясьненьне. Лягчэйшыя варункі працы „Грамады" робіць ёй польская палітыка і асабліва эндэцыя разам із сваімі „Dzień. Wileńskimi".

Побач з гэтымі фальшывымі „выясьненьнямі", „Dz. Wil." падае яшчэ іншаю ману, называючы „Беларускі Сялянскі Саюз" арганізацыяй беларускіх эсэраў, якой ён ня ёсьць і ніколі ня быў. *Д. Г.*

# Поэтыцкае творства Янкі Купалы.

*(Дзеля 20-х угодкаў ягонага літэратурнага творства).*

### 1. Творства лірыка-эпіцкае.

## IV. „Спадчына".

(Гл. № 33 „Сял. Нівы").

*Адзьдзел II-гі „Спадчыны" займаюць апісаньні сялянскага быту й беларускае прыроды.*

На'т у гэтай, убогай тэмамі краіне прымітыўнае вясковае вэгэтацыі, дзе ўсе гутаркі абяртаюцца каля зямельнага голаду і паспалітых злыбед,

„Па балючай, па вячыстай
„Б'юць усё струне:
„Абяднеў мужык дачыста
„Аж чуць-чуць дыхне!"

Як кажа сам поэта ў адным із сваіх вершаў („Аб мужычай долі" ст. 52),—Купала патрапіў аднак знайсьці новыя матывы, новыя мастацкія ніюансы...

Ужо ўступны верш гэтага невялікага, бо лічучага толькі 24 старонкі, адзьдзелу, носячы назоў „*Сявец*" (ст. 45),—зьвяртае ўвагу сваёй гомэрыцкай прасьцінёй і сакавітасьцяй зь якой апісуе поэта спрадвечную працу сяўбіта, маючую на вёсцы павагу амаль што ня рэлігійнага акту.

На жаль нястача мейсца і вялічэзнасьць зборніку не дазваляюць на прывядзеньне найлепшых адрыўкаў з гэнага і іншых вершаў, прымушаючы агранічыцца кароткімі зацемкамі.

Ідучы далей варта спыніцца над вершам „*Навука*" (ст. 53), які не адзначаючыся літаратурнымі вартасьцямі, цікавым ёсьць як яшчэ адзін рашучы крок на тым шляху няверы і бунту проці Бога, на які ўступіў Купала, пішучы верш п. н. „*Цару Неба і Зямлі*" (ст. 41), закончуючы першы адзел зборніку, аб якім мы ўспаміналі ў папярэдняй частцы нашага артыкулу.

Гэная нявера зьяўляецца аднэй із складовых частак тага духовага процэсу, які выклікаў у рэзультаце бальшавізацыю псыхікі Купалы, на шчасьце, частковую толькі, выклікаючую глыбокія й балючыя конфлікты ў душы поэты і раздвоенасьць ягоных імкненьняў, што пабачым ясьней у апошнім Купаліным зборніку: „*Безназоўнае*".

Зь іншых вершаў гэнага адзьдзелу заслугуюць на ўвагу: „*У хорамах*" (ст. 57), закранаючы спрадвечную тэму сацыяльных контрастаў і вызначны арыгінальнай, наррацыйнай хворма й і дасканальным, паміма ляконізму, малюнкам фэодальнага быту; „*Ідзе вясна*" (ст. 58)—адметны сваім глыбокім пэсымізмам; вершу гэнаму барджэй было-б месца сярод імпрэсыяў, чымся сярод малюнкаў прыроды; „*На полі тае*" (ст. 59)—сьпеўны, поўны пачуцьця верш, у якім поэта яшчэ раз кліча свайго, цёмнага брата будзіцца і ўставаць барджэй за сну няволі; „*Вясна*". (ст. 60)—слаба літаратурна, але цікавы сваёй ономатопэяй; „*Запела вясна сваю песьню*" (ст. 61)—у вершы гэтым душа поэты, абыходзячы веснавой пароЙ родныя гоні, устрымлюецца на ўзьмежку сялянскага шнура і прыглядаецца да спрадвечнае працы беларускага ратая; вось як малюе гэную сцэну ўвварушаны поэта:

„І шумам задумнага лесу,
„І шчэбетам птушак шчасьлівых
„Запела вясна сваю песьню,
„Запела на збуджаных нівах.
„Выходзіць селянін на поле,
„Зямлю ўздымае сахою...
„О колькі тэй веры, надзеі!
„О колькі сьвятога спакою!"

Агранічуючыся вышпрыведзеным адрыўкам гэнага прыгожага і музыцкага вершу, пяройдзем да іншых вершаў: „*Летам*" (ст. 62)—цікавы спэцыяльным падборам слоў і сваім скочным, іскрыстым тэмпам; „*У дарозе*" (ст. 65)—зьвяртае ўвагу арыгінальным зьместам, якім зьяўляецца апісаньне адзінотнага падарожжа непагоднай, васеньняю ночкаю з усімі яе сумамі й трывогамі; „*Удосьветак*" (ст. 67)—адзін зь лепшых вершаў гэтага адзьдзелу; зьмест яго на палову казачны: маладая папрадуха працавіта ўстаўшы ў досьветак засела пры верацёнцы, засьвяціўшы газьніцу; за вокнамі хаты шалее непагода; пуцінаю сярод балот йдзе здалёка падарожны, выглядаючы збаўчага вогніка, які-б паказаў дарогу; душа папрадухі інстынктоўна чуе, што хтосьці сьпяшаецца да яе, яна лятуціць аб суджоным, аб каханьні і заснуўшы бачыць ува сьне ўжыцьцёўленьне сваіх мар—лятуценьняў..

На гэтым абрываецца верш і чытар так і не даведаецца ніколі, ці ўратаваўся далёкі падарожны, ці мо' загінуў?

Гэты спосаб, сьвядома ўжыты поэтам, толькі павялічае ўражаньне і прыдае казачнасьці вершу.

Зачыняе адзьдзел вялікі верш „*Папджджане*" (ст. 69), належачы да катэгорыі містычна-сымбалічных вершаў зь імглістa-непакоячым зьместам, якіх ужо некалькі прыводзілі мы ў папярэдніх частках нашага агляду.

Верш гэты, найлепшы ў гэтым адзьдзеле, апісуе сумны лёс вясельнага паезду, які загінуў сярод сьнежнае завеі...

Вось яго пачатак:

„Распаўзлася на абшары
„Сьцюжным пухам, сьцюжнай марай
„Папаўзуха — завіруха —
„Злога духа злыб духа".

Ужо гэты невялічкі адрывак дае давольнае паняцьце аб арыгінальнасьці гэнага вершу, у якога структуры (разьмер вершу; падбор слоў і г. п.) зразу чуваць уплывы твораў Конопніцкай.

Гэтым канчаем агляд другой часткі, гэнага, ледзь што зусім нязнанага віленскім беларусам,—зборніку. *Я. Сьветазар.*

(Далей будзе).

# Найважнейшая справа.

(Да студыяў беларускае мовы).

(Гл. № 35 „Сял. Нівы“).

**Цяперашні стан навуковых дасьледзінаў беларускае мовы.**

Дзеля навуковых дасьледзінаў беларускае мовы зроблена яшчэ ня шмат і вельмі мала зроблена дзеля папулярызацыі гэтых дасьледзінаў.

І цяперака ў гэтым кірунку робіцца вельмі мала.

**Навука беларускае мовы ў Рад. Беларусі.**

Інстытут Беларускае Культуры ў Менску займаецца пакуль што толькі зьбіраньнем матар'ялаў. Хто ведае калі забраныя матар'ялы будуць выкарыстаныя. Дагэтуль нямаш на гэта ў Інбелкульце беларускіх філёлёгаў.

Ня лепшая справа і ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску. Ёсьць тамака людзі ўсёй душой адданыя беларускаму народу й ягонай мове, але ім не стае філёлёгічнага прыгатаваньня. Сёлета тамака справа налепшала тым, што да ранейшых профэсараў запрошаны з Адэсы малады ўкраінскі філёлёг Бузук. Гэта добра, але гэтага мала. Проф. Бузук на новай чужой ніве адзін ня справіцца. Побач ізь ім патрэбныя яшчэ філёлёгі Беларусы. Калі-б гэтак было, дык рабачаём на беларускай ніве ў Радавай Беларусі ня трэ' было-б пераживаці няпрыемных часінаў...

Наагул трэба сказаць, што пакуль у Інстытуце Беларускае Культуры ў Менску, у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску, у Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Смаленску студыі беларускае мовы ня будуць пастаўлены на належнаю вышыню, датуль ізь беларусізацыяй будзе нягодна.

**Заграніцай яшчэ гарэй.**

Нямаш, здаецца, жаднага ў-ту заграніцаю, дзе-бы беларуская мова выкладалася як асобны прадмет. Нядаўна ў у-це ў Брэславе (Нямеччына) выкладаў беларускаю мову проф. Абіхт але зь ягонай сьмерцяй лекцыі беларускае мовы спыніліся. Успаміны сяды-тады на лекцыях славянскае філёлёгіі беларускіх асаблівасьцеў і прыводжаньне напару прыкладаў ізь беларускае мовы даюць слухачом зусім малое веданьне. Аб значэцю з гэтакага вучэньня, ведама, й казаць няма чаго. Той толькі з абсольвэнтаў заграмічных унівэрсытэтаў можа быць беларускім лінгвістым, хто, не абмежуючыся вымаганым, на аснове здабытае веды з агульна-славянскае філёлёгіі, сам сыстэматычна студуе беларускаю мову.

**У Заходняй Беларусі справа ня лепшая.**

У ў-це Сьцяпана Батуры беларуская мова зусім ня выкладаецца, таксама як ня выкладаецца тамака нічагусенькі аб Беларусах і Беларусі. Дзеля гэтага, ведама, што навет тыя студэнты, каторыя пакачалі беларускія гімназыі, веды аб сваім народзе маюць малыя. А тыя, што прыйшлі ў унівэрсытэт із іншых гімназыеў нічагусенькі аб родным народзе ня ведаюць. Прыймаючы над увагу, што Вільня ё цэнтр беларускага жыцьця Заходняе Беларусі, што адгэтуль разыходзіцца беларускае сьвятло па ўсім краю, у Вільні канечне трэба стварыць беларускаю вышшаю школу. Цяперака гэт'кай школай маглі-б быць

*Вышэйшыя Курсы Беларусаведы,*

як беларускае дапаўненьне ў-ту Сьцяпана Батуры. Праграма гэтакіх курсаў павінна была-б адпавядаць праграме філёзофічнага (гуманістычнага, гісторычна-філёлёгічнага) факультэту ў-ту. Спачатку на гэтакіх курсах выкладаліся-б толькі тыя прадметы, якіх нямаш у віленскім у-це, г. зн.: 1) беларуская мова, 2) літаратура 3) гісторыя Беларусі і апроч таго 4) філёзофія, як прадмет надзвычайнае вагі. Запраўднымі студэнтамі былі-б: а) матурыстыя і б) вучыцялі, што скончылі вучыцельскаю сэмінарыю. Студэнты павінны былі-б мець індэксы, здаваць пераходныя й гаспадарсьцьвеныя экзамены, даставаць дыплёмы. Наагул усё мела-б быць так, як у ўнівэрсытэце.

Магчыма, што з дыплёмамі нашых курсаў не захацела-б лічыціся польская ўлада, але Беларусы і наагул бесстароньнія людзі зь імі ўсюды лічыліся-б.

Гэтакія курсы мелі-б вялізарнае значэньне. Дзеля адраджэньня Заходняе Беларусі яны канечне патрэбныя.

*Філёлёг.*

(Далей будзе).

Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаушы дай яе суседу.

# З Радавае Беларусі.

**Акадэмічная Конфэрэнцыя ў Менску.**

„Голас Беларуса“ наказуе: „Зь ініцыятывы Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску з 14-га па 21-га лістапада будзе Першая Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя.

На конфэрэнцыю запрошаны ўсе выдатнейшыя беларускія навукова-культурныя, працаўнікі як з БССР, СССР, УССР, так і з-за-межаў, бяз розьніцы іхніх палітычных паглядаў і кірунку.

Запрошаны таксама і навукова-літэрацкія сілы іншых нацыянальнасьцяў, калі яны выявілі сваю зацікаўленасьць у акадэмічным і культурна-літаратурным жыцьцю Беларускага народу.

Зь Ленінграда ІБК запрасіў — акадэмікаў П. А. Лаўрова і Е. Карскага і профэсараў — Б. Ляпунова, Л. Шчэрбу, Гарчынскага і А. Сэржпутоўскага. З Масквы — проф. П. Растаргуева і Д Ушакова і акадэміка Дурнова.

З Кіева і Адэсы — акадэміка А. Крымскага, профэсароў — Курылу, Тышчэнку, Ганцава, Немчынава, акадэміка Тамсона і проф. Грушэўскага.

Пастаноўлена запрасіць зь Нямеччыны наўчоных філёлёгаў — Фастэра і Бэрнэкера, з Прагі (Чэха-Славаччына)—Гуера, А. Беліча з Белграду (Паўднёва-Славія), з Польшчы — Бодуэн дэ Куртэнэ і Яна Развадоўскага (Кракаў), паэту Я. Райніса з Рыгі (Лацьвія) і прадстаўніка эстонскага ў-ту“.

Каля 10-ці віленскіх Беларусаў, што працуюць на беларускай навуковай або літаратурнай ніве так сама дасталі запросіны на вышспомненаю конфэрэнцыю. Як мы давеалiся, Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні паслала Інстытуту Беларускае Культуры пропазыцыю, каб конфэрэнцыя была адложана на Каляды, бо цяперака вельмі цяжка выбрацца ў Менск.

## Падавайце дэкларацыі на беларускія ўрадовыя школы!

Дэкларацыі і ўсе інструкцыі на жаданьне высылае:

а) Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры (Wilno, Zawalna 7 m. 8) і

b) Т-ва Беларускай Школы (Wilno, Wileńska 12 m. 6).

# НАВІНЫ.

**Суд над „Сялянскай Нівай“** Рэдактар „Сялянскае Нівы“ пацягнены да адказнасьці за зьмяшчэньне ў №35 газэты артыкулаў: „Палітыка польскага ўраду“ і „Нашая праграма“.

Улада знайшла ў гэтых артыкулах праступкі проці 129, 154 і 263 арт. К. К.

**Вечарына беларускага хору.** У нядзелю 31 кастрычніка з прычыны 5-х ўгодкаў істнаваньня беларускага касьцельнага хору, адбылася вечарына. Апроч сяброў хору былі запрошаны госьці. Праграма зладжылася з беларускіх песьняў, танцаў і гарбаткі.

**У студэнтаў Беларусаў.** Беларускі Студэнскі Саюз-у Вільні пачаў працу ў сёлетнім школьным годзе.

Сэкрэтарыят Б. С. Саюзу (Віленская 12, п. 6) адчынены ў аўторкі, чэцьверы і суботы ад 2 да 6 гадз. папал.

Ад 1-га кастрычніка с. г. Бел. Студ. Саюз пачаў раестрацыю новых сяброў.

**Дэнатураваны сьпірт на картачкі.** Комэндант поліцыі м. Вільні падняў пытаньне аб продажы дэнатураванага сьпірту на картачкі. Патрэбу гэтага комэндант даводзіць тым, што людзі п'юць дэнатураваны (сапсаваны, каторы ўжываецца толькі на паленьне) сьпірт, труцяцца ад яго і робяць нападкі, а тымчасам увядзеньне картачкаў павялічыла-б даход скарбу, бо тыя, што п'юць дэнатурат, пілі-б тады дарожшы чысты сьпірт.

**Пусташэньне беларускіх лясоў.** Паміж фінансавай англіцкай групаю, польскай экспозытураю, каторай ёсьць польская супалка дрыўяная „Century“ і міністэрствам земляробства дайшло да паразуменьня, на якіх прынцыпах супалка будзе далей эксплоатаваць беларускія пушчы: Белавескаю, Слонімскаю, Бакшчанскаю і Горадзенскія лясы.

**Пакушэньне на парахоўню?** Надовячы жаўнер, вартуючы ля парахоўні, выстралам пазваў калавур, каб задзержыць двох чалавекаў, што круціліся каля парахоўні і на крык ягоны пусьціліся ўцекі. Злавіць гэных людзёў не ўдалося.

**Ліст прот. В. Гапановіча.** Прот. В. Гапановіч, аб якім ходзілі чуткі, што маніцца перайсьці ў вунію, напісаў у „Віл. Утро“ адкрыты ліст, у якім станоўка пярэчыць гэтым чуткам. Паміж іншым прот. В. Гап. кажа: „Рух, на чале каторага стаіць Маразоў, ня можна назваць ані вуніяй, ані „ўсходнім абрадам“, а проста марозаўскай спробаю... Як бязыдэйны, марозоўскі рух не пацягнуў Вас, а мяне й пагатове ня цягне“.

Нашая газэта аб Марозаве гэта ўжо даўно пісала.

**Асвабаджэньне ад падатку.** Паводле цыркуляру міністра фінансаў рамесьнікі ізь сьвядоцтвам VIII катэгорыі і маючыя толькі аднаго работніка, асвабоджаны ад аплаты падаткаў із звароту. А хто зь іх ня мае работніка і сам толькі робе—не павінен выкупляць і самога сьвядоцтва. Гэтакія рамесьнікікі, калі заплацілі падатак, маюць права ўзяць яго назад.

**Вільня галее.** Цяперака ў Вільні аддаюцца ў наймо памяшчэньні пад 520 магазынаў, але ніхто ня хоча наймаць. Часьць памешчаняў пустуе ўжо болей паўгода. Вось да чаго вядзе польская політыка!

**Заява Ліцьвіноў.** Мясцовая ўлада дастала заяву 19 вёсак Сьвянцянскага павету, праз Літоўскі Комітэт у Вільні, у справе зачыненьня прыватных літоўскіх школаў Т-ва „Rytas“. Школьны інспэктар зачыніў гэныя школы з тае прычыны, што быццам вучыцялі ня маюць кваліфікацыяў. Прашэльнікі дамагаюцца ўрадовых школаў зь літоўскай выкладавай мовою, або дазваленьня вучыць ранейшым вучыцялём Т-ва „Rytas“.

# З Польшчы.

**Выдаткі Польшчы на армію й асьвету.**

Дырэктар гіпотэчнага банку ў Кракаве Пайгерт улажыў цікаўнаю статыстыку выдаткаў дзесяцёх гаспадарстваў на армію й асьвету. Сярод гэтых гаспадарстваў Польшча займае першае месца. Выдаткі на армію складаюць— у Аўстрыі—8 цэлых 3 дзес. проц. гаспадарсьцьвенага буджэту, Румыніі—13,6 (13 цэлых 6 дзесятых проц.), Англіі—14,5, Даніі—15,6, Гішпаніі—17,9, Чэхаславаччыны—21,3, Францыі—25,4, Японіі—29,3, Лацьвіі—33,1 і Польшчы—36,2 процэнта. Выдаткі на асьвету: Гішпанія—2 проц. буджэту, Англія—6,1 (6 цэлых 1 дзесятая проц.), Аўстрыя—6,2, Румынія—7,7, Японія—7,9, Францыя—9,5, Лацьвія—9,8, Чэхаславаччына—9,9, Данія—16 і Польшча—16,5 проц. Пры гэтым дырэктар Пайгерт дадае, што ўсе паказаныя гаспадарствы багатшыя за Польшчу.

Ведама, што грошы выданыя на армію, — гэта страчаныя грошы. Але Польшча выдае значны процэнт свайго буджэту (меней паловы таго, што выдае на войска) на асьвету, значыцца выглядае, як-бы на справу добраю. І гэта запраўды было-б так, калі-б у Польшчы ўсе народы аднолькава карысталіся асьветаю. А тым часам гэтага нямаш. У той час як у Польшчы грошы запраўды йдуць на асьвету, у Заходняй Беларусі, Усходняй Ліцьве і інш.,—адным словам у краёх так званых нацыянальных меншасьцяў грошы йдуць не па асьвету, а на цямненьне, на тое, каб, вучачы ў чужой польскай мове і адрываючы ад свайго народу, калечыць нашых дзяцей. Гэтакім парадкам беларускі народ за свой крывавы грош, зьбіраны зь яго ў хворме розных падаткаў, дастае ня хлеб, а камень.

**Што будзе зь зямельнай рэформай?**

Варшаўскі корэспондэнт англіцкай газэты „Times“ наказуе, што на сэкрэтнай зборцы ў Нясьвежу ў замку князёў Радзівілаў, на якой было каля 100 асобаў вялікіх паноў, разглядалася пытаньне, аб каранаваньню марш. Пілсудскага за караля Польшчы. Гэтая вестка выклікала вялікаю цікавасьць у Парыжы, дзе яе перадрукавалі француcкія газэты.

У сувязі з гэтым цікаўна, што ворган віленскіх монархістых „Słowo“ памясьціла рысунак, што прадстаўляе караля *Станіслава Аўгуста ля марш. Пілсудскага* а над імі польскаю карону.

У сувязі з гасьцінай марш. Пілсудскага ў Радзівілаў у Нясьвежу, ходзяць яшчэ і іншыя чуткі. Газэты паказуюць, быццам Польшча дастае ў Англіі пазыку 1 міліярд залатовак пад заклад земляў князёў Радзівілаў, Сапегі, Любомірскіх і іншых. У сувязі з гэтым павінна быць адменена ў Польшчы зямельная рэформа.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

